Іосіф Скурко

# БАЦЬКОЎСКІ ПАРОГ

Вершы

ВЫДАВЕЦТВА
„МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА"
МІНСК 1973

## ПАМЯЦЬ

Хачу я крыкнуць памяці: даволі
Кідаць мяне ў блакадныя снягі!
Трымаў сям'ю без хлеба і без солі
Скупым айчымам год сорак другі.

Прыхмарыць сон.
І поўнач, як мембрана,
Трывожнымі ўспамінамі звініць,—
Варожай бомбай цішыня ўзарвана,
Душу пякуць пажарышчаў агні.

Балюча,
Вочы едкі дым засцеліць —
Палаюць вёскі Слабада, Брусы...

І на зямлі здаровым белым целе
Дыміцца папялішчаў чорны сып.

Да дробязей ўсплыве жалобны ранак,
І бачацца выразна зноў і зноў
Да кожнай рыскі твары расстраляных,
Адчай і роспач у вачах удоў...

...На захад адкацілася навала,
Смяротныя віхуры адгулі.
Знямоглы ў бітвах мірны дзень памалу
Зямлянкамі прабіўся з-пад зямлі.

Даўно заціхла ліхалецця замець,
Над Мядзельшчынай сонца і блакіт.
Але і сёння ўсё пульсуе памяць
І водзіць мяне ў год сорак другі.

# Я НЕВЫКАЗНА ЛЮБЛЮ НЕБА

Я невыказна люблю неба,
Блакітнае і высокае,
З якім
Можна гаварыць, як з сябрам,
І глядзець на яго бясконца.
Мне хочацца, каб заўсёды
Яго падпіралі нарачанскія сосны,
Каб па ім можна было лётаць
У госці да бацькі,
Каб па ім вялі свой адвечны рух
Сонца і месяц,
Каб яно адбівалася ў вачах каханай,
Каб на ім успыхвалі зоркі штоночы.
...І робіцца мне жахліва,
Калі я чую пра выбухі ў небе В'етнама,
Дзе людзі хаваюцца ад неба,
Баючыся яго...

# ПОЛЬКА «НА ЛЁН»

Тут хлопцы,
Дзяўчаты,
Мужчыны —
Уся вёска сышлася, дальбог,
У Пількаўшчыне вечарыны,
У Пількаўшчыне вечарыны
Магдулінскі грае Цімох.

І вальсы,
І полькі віхураць,
Масніцы,
Як бубен, гудуць.
Ля клуба паважныя кураць
Дзяды
І гаворку вядуць.

Кабеты на лавах паселі,
Глядзяць на сыноў і дачок —
Гадаюць,
Ці скора вяселлі
І хто будзе з кім заручон.

А сонца блакіт заглянцуе —
Звычай такі тут здавён:
Апошнюю польку танцуюць
«На лён».

І толькі таму, няйначай,
Што польку «на лён»
У нас скачуць,
На гонях маёй стараны
Высокія родзяць ільны.

# ДАЎНЯЕ ПЫТАННЕ

*Бацьку*

Здаўна,
Каб крыху пасмяяцца,
Сусед вясёлы,
Альбо госць,
Да беларуса лез пытацца:
— Паслухай, братка,
Бульба ёсць?
І ведаў загадзя,
адразу —
Адказу іншага няма,
Сам, задаволены, адказваў:
— Ёсць, кажаш, бульба,
Дробнай шмат...
...У вагоне ўчора на змярканні —
Я не злую.
Якая злосць! —
Пачуў я даўняе пытанне:
— Паслухай, братка,
Бульба ёсць?

— Прыедзь у госці часам вольным
І сам убачыш, ягамосць,
Што маем нафту,
Вугаль,
Соль мы.
А бульба?..
І да бульбы ёсць!

# КАМСАМОЛЬСКІЯ КАСТРЫ

Мужнелі разам з песнямі
У вогненным віры.
Пасля баёў равеснікі
Запальвалі кастры.

Змагаліся з разрухаю,
Узводзілі муры.
І сны дымком ахутвалі
Вячэрнія кастры.

Вялікая Айчынная
Паклікала у строй.
Кароткім адпачынак быў
Каля начных кастроў.

Адбілі ўсе напасці мы,
Зямлі гаспадары,
І свецяць кветкай шчасця нам
Купальскія кастры...

Праходзіць камсамолія
Дарогамі бацькоў.
Нібы сама гісторыя —
Жывы агонь кастроў.

## ТАНК

(балада)

У спёклым небе
Жаўранкі звінелі
Ды заглушыў іх
Кананады шквал.
На полі кулі
Ад крыві шалелі.
І на ствалах
Не астываў метал.

О перамога,
Дзе ты, перамога?..
Загінуць кожны
За цябе гатоў.
Вяла на Мінск
Адзіная дарога
Байцоў
Вянчаных Славаю франтоў.

Яшчэ адна,
Яшчэ адна атака —

І зломлены
Фашысцкія рады.
Насустрач Мінску
Вырваліся танкі
І паімчалі
Праз агонь і дым.

Руіны Мінска
Першы танк віталі,
І слёз мінчане
Не маглі стрымаць...
Стаіць той танк цяпер
На п'едэстале,
Дзе гмахам
Сонца хораша вітаць.

А калі ўночы
Ліпень спеліць зоры,
Паветра поіць
Ліпаў пах густы,
Танк аб'язджае ціха
Стольны горад,
Нібыта правярае ён
Пасты.

Упэўнены,
Што цішыня над краем,
Бо памяць аб вайне
Яшчэ баліць,
Танк зноў
На п'едэстале застывае
У вечнай варце
Міру на Зямлі.

## БелАЗы

Ствараюць іх
Зусім не для паказу.
У іх — рабочы
Кожны сантыметр,
Асілкі беларускія —
БелАЗы.
Іх сёння добра
Ведае ўвесь свет.

Не ўстрашыць іх
Завейны шлях далёкі —
Яны на ўдзячнай службе
У людзей.
Працаўнікі,
Не просячы палёгкі,
Шчыруюць там,
Дзе праца найцяжэй.

Нясуць штодня
Упэўнена і мужна
Па паўпланеты

На плячах сваіх...
БелАЗы і магутныя,
Таму што
Былыя партызаны
Робяць іх.

# ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ

Адну з прыгожых вуліц ў родным Мінску
Завём любоўна —
Ленінскі праспект —
Тым імем,
Што нам блізка ад калыскі,
Гучыць якое,
Як матулі спеў.

Гасцям, што едуць
І здалёк і зблізку,
Гаворым:
— Прыязджайце к нам часцей!
Вас, як гасцінны гаспадар,
У Мінску
Сустрэне ветла
Ленінскі праспект.

Прыгожы ён
Світаннем і змярканнем,
Праспекту шчасцем
Сэрца поўніць век!

Заказ 1271

Наперад асвятляе
Шлях мінчанам
Заліты сонцам
Ленінскі праспект.

Акрыленая
Мудрым чалавекам,
Сталіца прыгажэе
З кожным днём.
Нібы шырокім
Ленінскім праспектам, —
Мы ленінскай
Дарогаю ідзём.

# РАДАСЦЬ

Я рад спатканням,
Веснім песням рад,
Сяброўскім наваселлям
Рад без меры —
Заўсёды ўцешна
Радуюць пагляд
Іх новыя,
Вясёлыя кватэры.

Я рад вяселлям
І радзінам рад,
Сябрыне дружнай,
Цеснаму застоллю.
Сустрэць сяброў шчаслівы,
Чым багат —
Спагадным ветлым словам,
Хлебам-соллю.

Хачу, каб кожны жыў,
Як з братам брат,
І радасці, скажу,

Не знаю болей.
Я многаму на свеце
Вельмі рад...
Адно —
Чужой бядзе
Не рад ніколі.

# КАЛЯ ПОМНІКА ЗАСЛОНАВУ

Мароз трашчыць,
Шалее ў злосці.
І прыгадалася тады:
Вайна...
Падполле «дзядзі Косці»...
Аршанскі вузел без вады...

Ноч ціха
Па абшары белым
Паходкай ходзіць
Мернаю.
Спіць горад.
А мароза стрэлы —
Як стрэлы
Рэвальверныя...

Шчэ не забыла час суровы
Сасна ніводная ў бары.
Зара світальная барвова,
Як сцяг,
Над помнікам гарыць...

Над горадам
Світанак зімні.
Пераклікаюцца гудкі.
Глядзіць Заслонаў,
Каб вазілі
Праз Оршу шчасце
Цягнікі.

# ТРАМВАЙ ІДЗЕ Ў ПАРК

У парк ідзе трамвай,
А я — пайду дадому,
Каб пасля работы скінуць стому.
У парк ідзе трамвай,
А я — у інтэрнат,
Падобнага ў жыцці у нашым шмат.
Нас мала хто з табою прыкмячае,
Ніхто пасля работы не чакае.
...Хоць цяжка — стой на рэйках і імчы,
Не папракалі каб цябе ні ў чым.
Парой карціць сысці з напятых рэек, —
Ды нельга, бо даўбешкаю агрэюць...
...Туга агорне у трамвайным парку,
Няма ў цябе, як ні кажы, там пары.
Затое добра, што не дакараюць
Ні ў чым сябры — халасцякі-трамваі...
У парк ідзе трамвай,
А я — у інтэрнат,
Падобнага ў жыцці у нашым шмат.
Выходзіць, што і ты, трамвай, мой брацe,
Жывеш у халасцяцкім інтэрнаце.

Бывай, трамвай, бывай,
Ідзі адпачывай
Ці песні хоць да раніцы спявай.
І я магу заліцца канарэйкай,
Абы на рэйках,
Так!
Абы на рэйках!..

* * *

Вочы твае,
Як крыніцы, глыбокія,
З даўгімі вейкамі — чаратамі.
Ты ж для мяне
Недасяжна далёкая,
Мне ісці да цябе
Месяцамі, гадамі.
А сам я, нібы падарожны
У пустыні,
Да мэты якому ісці —
Не спыніцца...
Ведаю —
Смага мая не астыне,
Смага —
Прыпасці губамі сваімі
Да невычэрпнай бяздоннай крыніцы.

# ВОСЕНЬ

Як штогод, з палітрай ходзіць восень
І фарбуе ў колер залаты
Фарбаю, разведзенай на росах,
Летнія зялёныя лісты.
Ўслед за ёю вецер закаханы
Шэпча чараўніцы пра любоў,
Толькі без адказу,
Раззлаваны,
Лісце скідвае [redacted] галін далоў.

Легкадумнасць ветру знае восень:
Толькі скончыць лістапад шумець,
Будзе ён, згубіўшы сон і розум,
У каханні клясціся зіме.

І таму яна не без прычыны
Чуць не хоча ветравай маны
І, як сарамлівая дзяўчына,
Твар хавае свой у туманы.

# СПАТКАННЕ З ПОЎДНЕМ

Лакаматыў натруджана сапе,
Як конь,
Прыпусціць рыссю, то галопам.
Без стуку сонца увайшло ў купэ
І аб'явіла: хутка Сімферопаль.

А за акном, як мора, стэп і стэп,
Такая роўнядзь — хоць гуляй у жмуркі.
Дыханне поўдня чуецца вастрэй —
І не такім вагон здаецца мулкім.

Затармазілі.
Станцыя Джанкой.
«Стаім пятнаццаць», — праняслося рэхам.
Выходзяць пасажыры грамадой,
Гарачыя смакуюць чабурэкі...

Грукочуць колы сотняю вазоў,
За цягнікам цень,
Быццам гончы, гоніцца.
Мы на скрылях халодных кавуноў
Іграем, быццам на губных гармоніках.

# НАВАГОДНЯЯ ТЭЛЕГРАМА

*Н. П.*

Званок кватэру разбудзіў так рана
І перайначыў думак маіх ход.
Спяшалася здалёку
Тэлеграма,
Каб трапіць да мяне
Пад Новы год.

Я ўдзячны за турботы і за памяць,
За тэлеграмы сціслыя радкі,
А я ўжо думаў —
Снежаньская замець
Заснежыла ўсе сцежкі, бальшакі.

Ці малады сняжок
Мне вочы засціць?!
Што ж патанула радасць у журбе?
Здалечыні
Ты мне жадаеш шчасця,
Але ж якое шчасце
Без цябе?..

# НЕЗАДАВОЛЕНАСЦЬ

Хаджу я з сумнымі вачыма, —
Выходзіць так самo сабой,
Нясу цяжар я за плячыма:
Незадаволенасць сабой.

І як пазбыцца мне напасці?..
Закрыла шлях к душы маёй
Для весялосці і для шчасця
Незадаволенасць сабой.

Сустрэну стройную дзяўчыну —
Прызнацца б у каханні ёй,
Ды ўсё мне перашкоды чыніць
Незадаволенасць сабой.

Мне хочацца, нібы ратаю,
Убачыць плён сяўбы сваёй:
Для песні звонкіх слоў шукаю,
А песня складзена —
Чытаю —
Незадаволены сабой.

Штодня за кожны свой учынак
З сабою я ўступаю ў бой, —
Ды тут адна,
Адна прычына —
Незадаволенасць сабой.

# КАМАРОК

Нехта так нарок цябе знарок,
Возера лясное Камарок,

Бо азёраў у Азёрках шмат,
Толькі меншага, чым ты, няма.

У ваду заглянеш — дно відно.
Ты такое чыстае — адно,

З мяккаю акругласцю краёў,
Нібы хто іх цыркулем правёў.

Бы дзяўчаты к люстру, да вады
Сосны пазбягаліся сюды.

Ноччу месяц, сонца дзень у дзень
У тваёй купаюцца вадзе.

Тут мае маленства ў цішыні
Галасамі хлапчукоў звініць.

Як дамоў прыеду я здалёк,
Да цябе спяшаю, Камарок.

# У РАСТОВЕ ВЯЛІКІМ

Уваходджу, нібыта ў казку
Я у Растоўскі крэмль.
Чалом, Растоў Яраслаўскі, —
Аздоба расійскіх зямель.

Прыгажосць тваю цяжка змерацъ,
Ля каменных сценаў тваіх
Ціха плешчацца возера Нера
Напамінкам вякоў сівых.

Быццам зоры на небе лічаць, —
Ўверх глядзяць і стары і малы:
Захапляюць сваім абліччам
Велічныя купалы.

І, напэўна, уся Расія
Голас слухае старыны:
Па-шаляпінску прабасілі
Растоўскія званы...

Я выходжу, нібыта з казкі,
Пакідаю Растоўскі крэмль.
Бывай, Растоў Яраслаўскі,—
Аздоба расійскіх зямель.

# ЗА ГУЛАМ ВЁРСТ

За гулам вёрст,
За сотняй небакраяў
Жывеш ты недзе ў шчасці ці ў журбе...
І я цябе ні ў чым не дакараю,
Што ты жывеш, —
Удзячны я табе.

Што для мяне
Адлегласцей імглістасць,
Калі чаромхі ўспыхнуў белы цвет,
Калі зялёны шум вясновых лісцяў
Табою перапоўніў белы свет.

# ЗЕРНЕ НАДЗЕІ

Надзеі
Зерне
Кінула ты ў завадзь
Жыцця майго,
І чую,
Як на дне
Заварушылася ўжо ласкатліва завязь
Кахання ў сэрцы у мяне.

# АДКАЗ

Ты у мяне пытаешся
Пра песні,
А я сябе
да крэсла прывязаў,
А ў крэсле тым —
Я зімнім днём і веснім,
А песні туга пішуцца,
Хоць трэсні, —
Ці я Пегаса
Слаба закілзаў?!

Пегас мне трапіў
Страшна наравісты —
Ледзь што не так —
І на зямлі ляжу.
То твісты выабцашвае
Са свістам,
А то ў паставе стыне
Камяністай,
Пакуль маўчу і
Па радку тужу.

Ці рве аброць —
Узняцца хоча ў неба.
Я ж на яго худы хрыбет
Гляджу.
Прыспешвае,
Без неба дыхаць нельга, —
Каб закідаў хутчэй
Натхнення невад
У мора сонца,
У заліў дажджу.

Здараецца,
Пегасу удаецца
Мяне ад седні
Часам адарваць,
І — ўраз рытмічней
Б'ецца маё сэрца,
Званчэе голас,
І лягчэй пяецца
Паміж палёў,
Дзе жаўранкі звіняць.

Ты зноў пра песні
У мяне пытаеш...

Што напісаў,
Які я маю плён?
Каб пелася,
Што мне рабіць —
Я знаю!
І жаўранак
На месцы не спявае,
Спявае толькі
У палёце ён...

# КОНІК, НОЧ І Я

Нязвыкла душна,
Хоць і дзверы — насцеж.
Па небе
Зорак плаваюць вянкі.
Суцішна,
А ля ганку час ад часу
Трашчаць адчайна
коніка званкі.

Чакае, як і я,
Мо ён кагосьці
І да світання, пэўна, не засне;
І не ідзе,
і не прыходзіць госць той,
І коніку маркотна,
Як і мне...

Дык, калі ласка,
Да мяне ў кватэру,
А ці не лепей
Удваіх чакаць?..

Дый не звані —
Адчыненыя дзверы,
Заходзь смялей,
Як сябар, без званка.

* * *

Каб знала ты
Мужчынскую тугу,
Што цягнецца,
Нібы ў дарозе вёрсты,
Каб знала,
Што твае сяброўкі лгуць,
Калі прарочаць нам
Здрадліўку-ростань,
Ты прыйшла б...

* * *

Пасля перасмяглага пылу,
Пасля паравознага дыму,
Пасля невыноснай спякоты,
Пасля апантаных грымотаў
З чужога нямілага неба, —
Як вочы абрыс твой шукалі,
Як я сумаваў, адзінокі,
Як трызніў з табою сустрэчай,
Мой край сінявокі,
Мой родны...

# ПЕСНЯ ЗІМЫ

Завірыла ў полі
Белая завея.
Песня маладая
Сэрцы нашы грэе.
Ад марозу, ад завеі
Шчокі нашы ружавеюць,
Пад завеяй, пад завеяй
Вусны макам пунсавеюць.

Музыка палоззяў...
Бег саней імклівы.
І ляцяць удалеч
Песні пералівы.
Па-над полем,
Над дарогай
Маладзік блішчыць двурогі.
А дарога, а дарога
Абяцае шчасця многа...

# ПРАЛЕСКАВЫ БЛАКІТ

Прайшоў бы міма, як у сне,
Не спынены нікім,
Калі б не паланіў мяне
Вачэй тваіх блакіт.
Ён растрывожыў сэрца мне
На васемнаццатай вясне.

І мы пайшлі рука ў руцэ,
Звінелі жаўрукі.
Цвіў у вачах і у рацэ
Пралескавы блакіт.
Расцвіў ён толькі для мяне
На васемнаццатай вясне.

І што мне сум,
І што адчай,—
Дзень сонечны такі!
Як шчасце, я нашу ў вачах
Пралескавы блакіт.

## ЛЮТАЎСКАЯ БЫЛЬ

Сцяжына, да цябе у скрусе
Прынёс самоту я сваю,
Скажы, куды па завірусе
Ты павяла любоў маю?

Маўчанне.
Раптам чую крокі. —
Таго не ўбачыш на вяку,—
Мароз і, не міргнуўшы вокам,
Цалуе любую ў шчаку.

Стаю.
Наўкол паснулі гурбы,
А рэўнасць колецца ўваччу.
— Куды вядзеш маю снягурку?! —
Старому з крыўдаю крычу.

Яна мая, а ты цалуеш,
Ну як не сорамна табе?
Відаць, напудзіўся дзядуля,
У лес ён борздзенька пабег...

* * *

Марзянкай весніх капяжоў
Мне тэлеграмы б'юць бярозы:
«Сустрэнеш мару ты ў дарозе,
Кінь сум,
Што покуль не знайшоў...»

Усё далей
Імчацца рэйкі,
Як дзве напятыя струны,
І крыгаломам
Бродзяць рэкі,
Вітаючы прыход вясны.

Цягнік грукоча.
За фіранкай
То лес,
То поле прамільгне.
Дзе, мара,
На якім паўстанку
Чакаеш ты мяне?..

## СЁМАЕ НЕБА

У пакоі
Нас жыве чацвёра,
Стройныя — хоць сёння на парад,
Тут не месца зайздрасці,
Дакорам,—
Дружны халасцяцкі інтэрнат.

Сем паверхаў.
Сходкаў пара соцень,
Наш пакой,
Імклівы «ІЛ» зусім —
У жыцці заўсёды мы ў палёце,
Лічым неба сёмае —
Сваім.

Стол святочны
Восень нам заслала —
Стравою спакусіцца любы:
Уплятаем пількаўскае сала,
Слуцкі мёд,
Чачэрскія грыбы.

У застолле
Мы не пусцім сварку!
Жартаў тут
Вясёлы перасол.
А калі ўжо ўшпарым
Польку шпаркую —
Аж прытупвае нагамі стол!

Некага не зможам далічыцца —
Тут настрой вясновы
Вінават...
І сумуе,
Як па сыне быццам,
Неба сёмае —
Наш інтэрнат.

Заказ 1271

* * *

На шыбінах
Мароз узоры піша,
Пэндзлікам паскрыпвае —
Чутно...
Сёння зноў
Чамусьці ты не выйшла,
Светлячком
Мігціць тваё акно.

Патушыла зоркі,
Шляхам Млечным
Ноч ідзе
Спакойна на спачын.
Ля тваіх акон,
Відаць, навечна
Буду я
Вартаўніком начным.

# РАЗВАГА

Развага —
    гэта
Думак
    раўнавага,
«За»
    і
        «супроць»
Пільнуюцца
        чаргі:
Кладзеш
    няпэўнасць
        з пэўнасцю
На вагі
Паволі,
Каб сышліся
    рычагі.
Быцця
    я слаўлю
        мудрую
            развагу,

Цвярозасць
перад кнопкай
і
курком,
Якія
могуць
перарваць
адразу
Мяжу
між
існасцю
і
небыццём...
Развага!
Вартасцей
ты маеш
многа,—
Шмат
з іх
заслонай
Могуць быць
ад бед...
Ды
ўсё ж,

Як пазавуць
на дапамогу,—
Калі
ты
прыйдзеш,—
Пракляну
цябе.

# УСМЕШКІ

Вы бачылі —
Святлее ў хаце, —
Святло святога пачуцця!
Калі
        дзіцю ўсміхнецца маці,
Ці маці —
Любае дзіця.

Дзень непагодлівы растане,
І сонца
Выплыве з-за хмар,
Калі
Усмешкаю каханне
Асветліць
Найдарожшы твар.

Сум з радасцю —
Уперамежку!
І мы становімся мудрэй,
Калі лагодлівая ўсмешка
Ля воч маршчыны сабярэ.

Да душ людскіх
Шукаю сцежкі,
Рух кожнай рысачкі лаўлю...
Я шчырыя
Люблю
Усмешкі.
Няшчырых
Толькі
Не цярплю.

* * *

Твой адказ,
Бяздушны і кароткі,
Быў,
Як нечаканая шрапнель, —
Б'юся,
Бы, пакінуты чародкай
З перабітым крыллем,
Жураўель.

# РЭХА

Туман дыміўся вечаровы,
Між дрэў
Хістаўся маладзік.
Зялёнай майскаю парою
Да рання
Я з табой хадзіў.

У вёсцы ціха спалі стрэхі
І бачылі дзесяты сон...
— Ты, толькі ты мая уцеха, —
Крычаў я
Ветру наўздагон.

Уцеха! Ўторыла мне рэха,
Уцеха і любоў мая,
І дзе б ні йшоў я,
Дзе б ні ехаў, —
З табою неразлучны я.

Прайшлі гады.
І твайго смеху

Не чуе ўжо дуброва больш.
Маўчыць між дрэў зацята рэха,
А сэрца журыць
Весні боль.

А калі вечар хмурыць бровы.
І змрок ахутвае зямлю, —
Блукаю соннаю дубровай
І рэха даўняе лаўлю.

* * *

Хоць дарог адужана не многа —
Прыкмячаю
З кожнаю вясной, —
Страты ўсе пазначаны,
Трывогі,
Палыном прагорклым —
Сівізной.

* * *

Ты мне патрэбна,
Як аблокам неба,
Лістоце — дрэва,
Ночы — цішыня,
Як ніве — колас
І зярняці — глеба,
Як песні — голас,
Птушцы — вышыня.

# ДОСВІТАК

Ёсць пара няпэўная такая,—
Нібы ў цёмных акулярах свет:
Сонца родзіцца за небакраем,
Даспяваюць росы у траве.

Свежасць першародная п'янкая,
Дыхаеш —
Хмялее галава...
Хваля сарамлівая рачная
Разгубілася у паплавах.

Цішыні пяшчотнейшыя словы
Вымаўляе досвітак услых,
Дзелячы,
Як яблык, напалову
Сон,
Падушку,
На дваіх —
Уздых...

* * *

Мне ўсю ноч сядзець,
Не разагнуцца
Над радком
І новы дзень страчаць.
Словы,
Што як ніткі ў кроснах,
Рвуцца,
На світанні
Песняй загучаць.

* * *

Ад чужога «бывай!»
У сэрцы прысмак гаркавы.
Як бяду,
Абыду
Я твой дом за вярсту...
Быццам бусел,
Самотна
Да дня праблукаю,
Можа, закалышу
Неспакою жарству.

...Уладарыць зіма,
Праз завеі
І сцюжу
Я лаўлю снегу талага
Водар лясны.
Ты, напэўна, па мне
Вечарамі не тужыш, —
Дык навошта,
Скажы,
Ты прыходзіш у сны?..

# СУСТРЭЧА

Як знічка,
Выпадковая сустрэча
Мільгнула
Над будзённасцю жыцця.
І здаўся летнім мне
Зімовы вечар, —
Вакол снягі ўладарылі хаця.

— А помніш, помніш?..
— Годзе ўспамінаць,—
Перад вачыма ўсё,
Учора быццам.
Няхай табе
Пад раніцу прысніцца
У кветкавым пажары
Сенажаць...

* * *

Кажаш, што клянам балюча,
Як вясной падсочку робяць,
Дык навошта з асалодай
Ты кляновік п'еш тады?..

* * *

З другім пайшла па жаўталісці.
А без цябе
Мне трызніць некім.
І нам ніколі не сысціся, —
Як рэйкам...

* * *

— Хоць ненадоўга выйдзі, —
Я прашу.
— Занята.
— Я чакаю, —
Анігадкі.
А слова паляцела
У душу,
Нібыта камень,
Пушчаны з рагаткі.

* * *

Як дзіця,
Я шчыра ў казкі веру.
І чакаю цуда дзень пры дні:
Прыйдзеш ты
І грукнеш ціха ў дзверы,
І з парога смех твой зазвініць.

Не прыходзіш.
А чаму — не знаю,
Мо віною вецер і слата...
Пэўна, ў казках толькі
Так чакаюць,
Так упарта і няўцешна так.

Змерклася,
Каля акон за вербы
Зачапіўся рогам маладзік.
Ты прыйдзі,
Каб я у цуды верыў,
Каб у казкі верыў,
Ты прыйдзі.

# РАБІНАВАЯ НОЧ

Наскрозь прапах
Калоссем жнівень,
А зарападам —
Далягляд.
З лісцём хаўрусіць
Буйны лівень,
І восень
Ходзіць ля прысад.

Я адчуваю —
Злая сіла
Звядзе ў прадонне —
Толькі збоч.
Ці да цябе
Шляхі закрыла
Тугой
Рабінавая ноч?!

На міг
Азначыцца сцяжына,—
Ды зноўку

Цемра заглыне.
Сузор'е дум маіх —
Рабіна,
Не дай з дарогі збіцца мне!

Я ведаю: ў нявернай далі,
Дзе крона ясніцца твая,
Праз ноч чакае,
Выглядае
Мяне
Каханая мая.

# СВІЦЯЗЯНКА

Салаўіным майскім ранкам
На семнаццатай вясне,
Свіцязянка,
Свіцязянка,
Напаткалася ты мне.

Кругам паплыла палянка,
Захістаўся лес стары...
Свіцязянка,
Свіцязянка, —
Воч блакітныя віры.

Праз дажджы
І праз маланкі
Я табе любоў нясу.
Свіцязянка,
Свіцязянка,
Радасць ты
І першы сум...

* * *

У снежным полі —
Дзве бярозкі,
Відаць,
Такі ўжо выпаў лёс:
Пагрэцца з гаю
Беглі ў вёску —
Ды іх
Перапыніў мароз...

# ЗЕЛЯНОЧЫ

*М. Заранку*

У бок Гомеля еду,
Сыду апаўночы —
Чакаюць у госці
Мяне Зеляночы.

Пясчанай дарогаю
Весела крочу,
Прысадай зялёнаю
У Зеляночы.

Блакітным спакоем
Напоўнены вочы —
Да раніцы сіняй
Не спяць Зеляночы.

Гасцей прывітаюць
Мае Зеляночы
Душою адкрытай,
Паглядам дзявочым.

Паклон, Зеляночы,
Паклон, Зеляночы,
Зялёныя дні
І зялёныя ночы.

* * *

...І табе не спіцца...
За туманамі
Па асенніх сцежках
Ходзіш ты,
І лістамі,
Мной не адасланымі,
Шапацяць
Кляновыя лісты...

* * *

Сталічны,
Адмысловы
Аўтобусны вакзал.
На развітанне слова
Я не сказаў...

Шафёр
Калюча глянуў
І ў крэсла ўрос.
Скажы,
Куды каханую
Ты ўчора звёз?..

* * *

Ты пазваніць
Дазволіла мне сёння, —
Да тэлефона
Птушкаю лячу,
У чарнабровым,
Радасным палоне,
Нібыта сонца,
Чорны дыск кручу...

# НА СВІЦЯЗІ ДОЖДЖ...

Нешта не па-людску задажджыла,—
Колькі дзён
Без сонца і цяпла...
Пэўна, Ялта
Сонца прыручыла
Да свайго паўднёвага жытла.

Свіцязь
Вусны злосна надзімае,
Уздыхае,
Рвецца на пясок.
То ўсплыве,
То ў протані знікае
Белай пены
Вузкі паясок.

Б'юцца хвалі ў бераг у адчаі.
Беспрацоўна стынуць два вяслы.
І танцуе човен на прычале,
Навальнічны шлях —
Яму малы!..

* * *

Дрыготкае святло
Зацепліў месяц.
У небе
Перастоеная ціш.
Снег вараныя
Капытамі месяць,
І выдаецца —
У Сусвет ляціш...

# СУНІЦЫ

Прыйшоў у польных красках чэрвень
З чупрынаю густою траў,
А ад суніц —
У лесе чырвань
Шугае,
Нібы ад кастра.

З табою мы па лесе ходзім,
Шчымліва сэрцам у грудзях.
І, як віно, ў галовах бродзіць
Сунічны сок,
Сунічны пах.

Вядзе дадому
Лес вячэрні
Па верасах,
Па верасах...
Табе за шчасце
Дзякуй, чэрвень!
Табе,
Лясны сунічны пах!..

# Я — ДЛЯ ЦЯБЕ, ТЫ — ДЛЯ МЯНЕ

Пішы, —
Прасіў на развітанне, —
Пішы,
Каб шлях закрыць журбе.
І пішам мы,
Як сумна стане,
Ты — да мяне,
Я — да цябе.

Жаданы воблік не растане,
Хоць колькі часу не міне, —
Мы будзем думаць
У расстанні —
Я — пра цябе,
Ты — пра мяне.

Мы не забудзем
Той хвіліны,
Калі сказалі мы сабе:
Адна, адзіная...
Адзіны...

Ты — у мяне,
Я — у цябе.

Святло тваіх вачэй
Мне свеціць, —
Яно —
Другое сонца мне!
І мы жывём з табой на свеце,
Я — для цябе,
Ты — для мяне.

# ЗЯЛЁНЫ ШУМ

Як ты трывожыш мне душу
Увечары і ўранку!
Зялёны шум,
Зялёны шум,
Маленства калыханка.

І радасць тут мая,
І сум,
Асенні дзень і весні.
Зялёны шум,
Зялёны шум,
Майго кахання песня...

# ВЕРАСЫ

Сосны,
сосны...
На узлеску
Расцвіталі тут калісь пралескі,
І звінелі нашы галасы,
Дзе палалі цветам верасы.

Полымя ружовых верасоў...
Я да соснаў,
пэўна б, не прыйшоў,
Калі б лета сум мой загаіла,
Калі б восень зноў не запаліла
Полымя ружовых верасоў.

Вёсны,
вёсны...
Пералескі...
Успамінам узышлі пралескі.
Пад журбою восеньскай расы
Хай жа расцвітуць зноў верасы.

Светлая пара юначых сноў...
Я сюды прыходжу зноў і зноў.
Наша ростань сум не загаіла,
У сэрцы назаўсёды запаліла
Полымя ружовых верасоў.

# НЕБАСХІЛ МАІХ ВАЧЭЙ

Сустрэў цябе,
Як зорку з неба,
І сонца свеціць мне ярчэй,
І больш нікога мне не трэба, —
Ты —
Небасхіл маіх вачэй.

З дарог, туманамі спавітых,
Вяртайся да мяне хутчэй!
На небе нестае блакіту,—
Ты —
Небасхіл маіх вачэй.

Ты зноў са мной —
І зніклі хмары,
І жыць,
І дыхаць мне лягчэй,
Лятунак мой,
Каханне,
Мара,
Ты —
Небасхіл маіх вачэй.

* * *

Зноў разбудзілі журавы світанне,
Асеннім лісцем кружыць развітанне.
Ды ў тым няма маёй віны,
Што белым бэзам пахнуць сны.

Сагрэты успамінаў цеплынёю,
Не веру, што растануся з вясною.
Асенні час, журлівы час,
Падпільнавала ростань нас.

Няўжо і я, зажураны, павінны
Ляцець услед за жураўліным клінам?
У тым няма маёй віны,
Што пра вясну мне сняцца сны...

# ПЕРШЫ СНЕГ

Мяне з табой звяла лясная сцежка
І за табою павяла мяне.
Твая ласкава веснілася ўсмешка.
Над соснамі крыжыўся першы снег.

Звінеў блакіт над стылым шляхам санным,
І час ляцеў імкліва, як у сне,
Гарачыя былі тады прызнанні,
А чыстыя былі, як першы снег.

А дні хутчэй бягуць, гады мінаюць.
Звініць званочкам твой вясёлы смех.
І сёння нашы вусны ўспамінаюць
Сцяжынку, што пабегла ў першы снег.

## ЦЯБЕ ШУКАЮЦЬ

Цвітуць сады
За горадам, —
Цвітуць —
Садам цвісці...
Нізінамі, пагоркамі
Чаму ж адной ісці?..

Святла замнога
У садах.
Паўсюль вясна, вясна...
А можа, гэта не бяда,
Што ходзіш ты
Адна?

Ты вер,
Што шчасце не ўцячэ,
Дзявочых слёз
Не лі!
Цябе яшчэ,
Цябе яшчэ
Шукаюць на зямлі.

# ЛОТАЦЬ ЦВІЦЕ

Запаліла пажар
веснавая пара,
І на кожнай вярсце
Жоўтым полымем
Воды прылучча гараць —
Лотаць цвіце.

У прыцішаных прыцемках
Песні не спяць.
Змрок
гусцей і гусцей...
На сцяжынцы ад ног тваіх
Росы кіпяць —
Лотаць цвіце.

Вецер песні вячэрняй даверыўся,
Сціх,
Хваляванне расце,
Нават дрэвы да рэчкі пайшлі
Па дваіх —
Лотаць цвіце.

А рука мая
У шчасця майго на плячы.
Сэрца б'ецца часцей.
Ноч.
Пялёсткавая гарачынь.
Лотаць цвіце.

# ГАРЫ, ЦЯПЕЛЬЦА, У ШЧЫТКУ

Вось і змярканне прычакаў,
А за акном —
Марозна.
Суцішна,
Цёпла ля шчытка,
Патрэсквае бяроза.

А я у полымя бяроз
Падкідваю асіну,
Былое ўсё,
Што не збярог,
Агнём палае сінім.

Асіна мокрая пішчыць
І слёзы выпускае,—
Гарыць бяда мая,
Гарыць,
З бярозаю палае.

Снуюцца цені на сцяне,
Шукаючы ратунак.

І напалову добра мне,
І напалову сумна.

Я разам з марамі лячу,
Са згадкамі начую,
Убачу ўсё,
Што захачу,
Што захачу, пачую.

І песні,
Што мярэжы ткуць,
І рэк,
І гор абрысы...
Гары,
Цяпельца, у шчытку —
Мой добры тэлевізар!

# ТЫ НЕ ПАЙШЛА...

Ты не пайшла са мной.
Ну што ж,
Я, пэўна, старамодны...
На вуліцы шапоча дождж,
А я — маўчу,
Самотны.

Мне постаць мроіцца твая
І поўня над палянай...
Табой адной
Сягоння я
Наноў усхваляваны.

Мяне пакінула журбе,
Хоць адкажы,
Нашто ты?
Я успамінам пра цябе
Развеяў адзіноту.

* * *

Як пераходы
У пяхоты,
У нас палёты і палёты.
Турбінным гулам повен дзень,
І ноч маторамі гудзе.

...Плыве зямля.
Ідзём з задання,
Хмурынка сядзе на крыло.
А пад крылом,
Як на экране,
Мільгне то рэчка,
То сяло.

Уніз гляджу —
Сцяна лясная,
За лесам
наш аэрадром.
Перад вачыма усплываюць
Мой край лясны
І родны дом.

Ляцім.
Над возерам у сіні
І мне прымроіцца на міг,
Што ўнізе пеніцца не Ільмень, —
А Нарач
Б'ецца ў берагі.

* * *

Ямачкі на тваіх шчоках
Вясёлыя такія і шчаслівыя,
Што мне без іх
Цяжка ўявіць цябе хоць на хвіліну...
Яны заўжды на твары:
Калі смяешся ты,
Калі спяваеш ты,
Калі вядзеш прыемную размову
І, пэўна, калі сон дзявочы сніш...
Якое шчасце,
Што перад дальняю маёй дарогай
Пры развітанні
Ямачак на тваіх шчоках
Я не прыкмеціў.

* * *

То цябе губляю,
То адшукваю
І сябе надзеямі
Ашукваю,
Па́даю
На грэшную зямлю.
Выццам птушку,
Мару я лаўлю.
У руках
Ніводнай пёрыны́,
А над галавою —
Перуны...

* * *

У полі верхаводзіць завіруха,
Платы шчапае студзеньскі мароз.
Прастуджаныя дрэвы
Стогнуць глуха —
Здаецца,
Людзям скардзяцца на лёс.

Сячэ іх вецер сотнямі нагаек, —
Боль невыносны —
Можна звар'яцець...
Яны галлём,
Як крыламі, махаюць —
У вырай, мусіць,
Хочуць паляцець.

# ПАМЫЛКА

Ты інакшай стала.
Так вядзецца —
Час усё змяняе на зямлі:
Здарыцца, што моцнае — парвецца,
Слабае — ліпіць.

Думаў —
Пройдзе час — не застанецца
Нават згадак пра цябе,
Але
Памыліўся,
І сягоння сэрца
Птушкаю трапечацца ў сіле...

* * *

Мы прымірэння
Прагнулі ўдваіх,
Хоць позіркі
Баяліся сустрэцца,
І ўжо не мог я,
Як нядаўна, грэцца
Пад поглядам
Ласкавых воч тваіх.

* * *

Нашы кватэры —
Дзверы у дзверы.
Нас калідор раздзяляе шэры.
Нібы сасонка —
Суседа жонка.
Шчаслівая, смяецца звонка.
Суседцы сваёй,
Калі днём сустракаю,
Добрага дня
Я заўсёды жадаю,
Калі адвячорак прыносіць сустрэчу,
Шчыра, прыветна кажу:
«Добры вечар».

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ды слухацца голас чамусьці не хоча,
Як трэба суседцы сказаць:
«Добрай ночы».

* * *

Сёння ненарокам зноў праверыў,
Ці на месцы дом твой.
І ці скора
У тваім акне святло пагасне...
Пазіраў, нібы на дзівака,
Што стаяў задоўга на марозе,
Жоўтым вокам месяц на мяне.
За гадзіну, можа, да паўночы
Цеменню з акна твайго дыхнула,
І нясмела стаў к табе заглядваць
Месяца цікаўны твар.

...Я прыйшоў дадому,
І да рання
Месяц мне заснуць не даў.
У скрусе
Ад акна не змог адвесці воч...
І не мог я аніяк паверыць,
Што ўсю ноч адзін свяціў нам месяц
У тваё і ў маё акно.

* * *

Свяціўся горад
У мільён акон,
З ліп ціха падаў
Пажаўцелы ліст.

Мы разышліся —
Гэта быў не сон,
Пад восеньскі дакучны
Ветру свіст.

Не супыніць
Размерны часу бег.
Зноў восень
У маіх краях гасціць.
Пайшоў я назаўсёды
Ад цябе,
Але куды
Мне ад сябе пайсці?!.

* * *

Усё акрэслена часам,—
Мне даводзіў мудрэц,—
Усяму ёсць пачатак,
Усяму ёсць канец...

Але я
Цвёрда знаю,
Хоць няўцям
Мудрацам:
Славе
Роднага краю
Век
Не будзе
Канца!

# БАЦЬКОЎСКІ ПАРОГ

З маленства, як неба, бясхмарнага,
Дзе першае слова і крок,
Над снамі ўладарыць і марамі
Бацькоўскі парог.

Ні ў дзень залаты, ні апоўначы
Мяне не чакаць ты не мог,
Зажураны, родны і сонечны
Бацькоўскі парог.

Жывуць твае сосны ля веснічак
Дыханнем любві і трывог,
Тваімі турботамі вечнымі,
Бацькоўскі парог.

Шчаслівай часінай і горкаю,
На кожнай з далёкіх дарог
Ты мне — падарожнаю зоркаю,
Бацькоўскі парог.

## ЗМЕСТ

На белорусском языке

Иосиф Владимирович Скурко

ОТЦОВСКИЙ ПОРОГ

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, ул. Советская, 19.

Рэдактар Хв. Чэрня. Мастак Г. Скрыпнічэнка. Мастацкі рэдактар Л. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Папкова. Карэктар Я. Харко.

АТ 15565. Здадзена ў набор 12/IX 1972 г. Падп. да друку 13/XI 1972 г. Тыраж 3000 экз. Фармат 84×108 1/64. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,94. Ул.-выд. арк. 2,27. Зак. 1271. Цана 24 кап.

Друкарня «Чырвоны друкар» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, зав. Калініна, 12.

**Скурко І.**

Бацькоўскі парог. Вершы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1973.

112 с. 3000 экз. 24 к.

Зборнік паэта склалі вершы аб гераічным мінулым роднага краю, яго прыгажосці, мужнасці людзей. Многа вершаў напісана аб каханні, светлых пачуццях моладзі.

Бел. 2
С 46

С $\frac{0743\text{-}006}{М\ 302(05)73}$ 137-73

